Год I. Ліпень—Жнівень № 5.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. 1

ЗЬМЕСТ № 5:



„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл
Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Людвісарская № 1 — 23. (Wilno, Ludwisarska 1 — 23).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год І. | Вільня, — Ліпень—Жнівень 1929 г. | № 5. |
|---|---|---|

## *У Н А Р О Д!*

*З кожным пачаткам школьнага году, уступае, як у ніжэйшыя, так сярэднія і вышэйшыя школы беларуская моладзь, каб здабыць там асьвету і ўзгадаваньне. У канцы-ж школьнага году многая лічба беларускае моладзі пакідае школу. Адны на час летніх вакацыяў, другія, кончыўшы свае адукацыі, ідуць працаваць на кавалак хлеба.*

*Беларуская моладзь, як ведаем, вучыцца ў школах польскіх, дзе полёнізуецца, і калі выходзіць з школы, дык найчасьцей забывае, кім яна ёсьць, за якую працу і гдзе павінна яна брацца. Адным словам, выходзе моладзь наша асьвечанай, але зьбітая з правідловай жыцьцёвай каляіны.*

*Такія нясьведамыя маладыя Беларусы, гонячыся за лепшымі жыцьцёвымі варункамі, часта выязджаюць у этнографічную Польшчу і забываюць аб сваей Бацькаўшчыне Беларусі.*

*Адзінкі-ж маладых сьведамых Беларусаў, каторыя здабылі асьвету ў польскіх школах і хацелі-б працаваць паміж сваіх сялян, як вучыцялі, найчасьцей дастаюць сабе працу толькі ў цэнтры, або аж на захадзе тэй-жа этнаграфічнай Польшчы.*

*І так нашая бедная старонка, нашая шэрая вёска, заместа, каб здабыць больш сваіх культурных сіл, каторыя маглі-б вясьці культурную працу ў сваей старане, траціць іх.*

*А што-ж мы цяпер убачым у сваей вёсцы, калі мы глянем на яе? Убачым мы там голад маральны,*

*культурны і матэрыяльны. Наша беларуская вясковая цёмная моладзь — здэмарэлізаваная, разьбітая, ня мае сваіх правадыроў, ня мае сваей арганізацыі, каторая зразумела-бы яе маладыя імкненьні і пакіравала-б на добрую дарогу, на дарогу працы для агульна-народнага шчасьця.*

*Беларускае старэйшае грамадзянства, а асабліва маладая съведамая інтэлігенцыя, абавязкава павінна зьвярнуць на гэту справу найвялікшую ўвагу, каб заапекавацца сваімі маладымі братамі, каб яны мелі пажыву маральную, духовае кіраўніцтва.*

*Забывацца аб вёсцы нельга! Як можа інтэлігенцыя наша гнацца за сваім асабістым матэрыяльным жыцьцём, калі браты яе, з каторымі яна разам праводзіла дзіцячы час, церпяць недастатак культурны! Мейсца ўсяе беларускае інтэлігенцыі пры сваей няшчаснай вёсцы. Беларуская інтэлігентная моладзь мусіць ісьці рука ў руку з моладзьдзю беларускаю працоўнаю, вясковаю і мястоваю. І разам супольнымі сіламі павінна здабываць сабе лепшае, вольнае, культурнае жыцьцё.*

*У гэтым кірунку найбольш працы могуць праявіць маладыя беларускія вучыцялі, каторыя павінны старацца быць у сваей старане дзеля працы культурнай і агулам дзеля дабра беларускага сялянства.*

*Дык браты вучыцялі, зразумейце сваё вялікае заданьне і ня выяжджайце ў чужы край, а старайцеся дастаць працу ў сваім родным кутку. Ды і ўся беларуская моладзь, здольная да працы над палепшаньнем долі беларускага народу, павінна ўзяцца за гэту працу, а заплату-ж дасьць народ.*

*Дык хай-жа праца гэта ідзе правідловым народным шляхам!*

*Я. Н.*



# Супольным шляхам!

Ад нядаўнага часу ў адналітым дасюль беларускім адраджэнскім руху наступіў бязьлітасны падзел на два варожыя сабе кірункі. Адзін кірунак—гэта прадаўжэньне барацьбы за нацыянальна-соцыяльнае вызваленьне Беларусі, які ў сваіх канчальных імкненьнях вядзе да незалежнасьці Беларусі. Другі кірунак імкнецца да падпарадкаваньня ўсяго беларускага руху марксыскім ідэям, якія нясуць з сабой нішто іншае, як адпору ад усяго беларускага. І тагды, калі першыя ў сваей дзейнасьці вядуць няўпынныя змаганьні за нашыя сьвятыя ідэалы, то другія выракаючыся, а што больш —змагаючыся з гэтымі ідэаламі, прыносяць агульнабеларускай справе шкоду. У чым ляжыць прычына адхіленьня гэтых другіх? Прадусім у тым, што падобны стан рэчаў ёсьць выкліканы пераважна тымі ненармальнымі абставінамі, у якіх мы знаходзімся ў сяньняшні мамэнт. Заўсёдныя рэпрэсіі і прыгнечаньні ды не магчымасьць поўнасьцю ім проціўставіцца, прымушаюць часта шукаць якнайхутчэйшага выхаду неадпаведным нават спосабам, сьпіхаюць часта народныя парывы на ненармальную дарогу. І падобнае зьявішча ў сяньнешнім беларускім руху, як факт паўстаньня цялком супярэчных з нашым заданьнем і ненармальных імкненьнеў ёсьць выкліканы ня чым іншым, як тым цяжкім, проста бязвыхадным палажэньнем, у якім мы сяньня знаходзімся. Бо трэба ўсьведаміць сабе, што народ беларускі, як па сваім нацыянальным імкненьням, таксама паводле сваей соцыяльнай структуры, зьяўляецца адналітым, дзеля чаго не павінна ў нас быць ніякіх паміж сабой змаганьняў, бо няма за што змагацца. Аднак нажаль, гэтыя змаганьні ў нас сягоньня ёсьць і зьядаюць шмат энэргіі грамадзянства.

Калісьці, як разважаў Славацкі над маральным упадкам польскага грамадзянства, то сказаў, што „яны былі добрыя, але бяда і няшчасьце іх зрабіла злымі.“

Нішто іншае і ў нас, як агульнанародная бяда і няшчасьце скрывіла простую лінію нашай дзейнасьці і ўзьвяла яе на той шлях, які ня мае пад сабой моцнага грунту. Бо падобны падзел у беларускім руху ёсьць чужым для нас, нязгодным з беларускай псыхікай, накінуты нам з боку.

І вялікую шкоду робяць тыя, якія не падумаўшы моцна, ідуць у сваей дзейнасьці пад штандарам чужым, не беларускім. Праўда, можа на першы пагляд ім выдаецца, што маюць рацыю быту, але трэба ўсьвядаміць сябе, што толькі тыя імкненьні магчымыя да зрэалізаваньня, якія аснаваны на разумных падставах і цалком супадаюць з народнай псыхікай. А ці-ж адпавядаюць гэтым вымаганьням

імкненьні тых, якія хочуць беларускі рух падпарадкаваць плыўкім міжнародным ідэям марксызму? Трэба сказаць станоўча, што не! Бо іх дзейнасьць ёсьць нічым іншым, як несьвядомым разбурэньнем усіх тых народных вартасьцяў, якія з вялікімі высілкамі былі здабываныя праз так доўгі час, а што горш—нішчучы і разбураючы ўсё беларускае на карысьць неадпаведных нам ідэяў, яны затрымліваюць і аслабляюць бег нашага адраджэньня!

Пара адумацца! Асабліва ляжыць гэта ў абавязку нашае моладзі. Бо моладзь згодна з сваей прыроднай натурай, заўсёды выступаючы на арэну грамадзкае дзейнасьці, ўносіць туды новыя, больш адпаведныя заданьні, за асягненьня якіх змагаецца.

Дык кожны, хто пачуваецца шчырым Беларусам, няхай горніцца ў сваей дзейнасьці пад народны беларускі сьцяг! Ніякіх збачэньняў не павінна быць у нашай дзейнасьці, а толькі адна адзіная ідэя павінна заўсёды прысьвечываць у нашым змаганьні—**вольная і незалежная Беларусь!**

**С. Каліна.**

---

# У дзесятыя ўгодкі сьмерці.

20.VIII.1919 г. ў Закапаным на сухоты памёр Іван Луцкевіч. Ад сьмерці яго сяньня мінае дзесяць гадоў.

Дзесяць гадоў — даволі многа часу. Аднак памяць аб гэтым вялікім сыне Беларусі і сяньня жыве ў народзе.

Зразумелая гэта рэч. Народ цэне і помне ўсіх тых сыноў сваіх, каторыя ў найцяжэйшыя часіны помнілі аб ім, аб яго патрэбах, аб долі ягонай.

Іван Луцкевіч радзіўся 28.V.1881 г. ў Шаўлях. Вучыўся сьпярша ў Лібаўскай гімназіі і ў Менскай, пасьля ў Пецербурскім унівэрсытэце і ў архэолёгічным інстытуце.

1902 г. ў тым-жа Пецербурзе падчас навукі, а так-жа ў Менску ў часе вольным ад заняткаў І. Луцкевіч вядзе ўжо даволі шырокую беларускую працу асабліва сярод студэнства.

1906 г. Іван Луцкевіч, у паразуменьні з беларускай пісьменніцай Цёткай, Фр. Умястоўскім і інш. арганізуе першую беларускую часопісь „Наша Доля“, а пасьля закрыцьця яе ўладамі, арганізуе шырока ведамую часопісь „Нашу Ніву“ і вынаходзе матэр‘яльнае для яе падтрыманьне.

Але найбольш улюбёным заняткам Івана Луцкевіча была праца ў галіне беларускай архэолёгіі. Дзе толькі спатыкаў ён які гістарычны культурны забытак, датычачы Бе-

ларусі, за апошнія грошы набываў яго. У выніку гэтых яго захадаў беларускі народ мае сяньня музэй беларускай старасьвеччыны яго-ж імені, зьмешчаны часова ў Базыльянскіх мурох, у Вільні.

1918 г. 24—25 сакавіка Іван Луцкевіч бярэ ўчасьце ў слаўным акце абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

У тым-жа 1918 г. Ів. Луцкевіч у ліку шасьцёх іншых Беларусаў, як дэлегат ад імя Беларускай Рады ў Вільні, бярэ ўчасьце ў Літоўскай Тарыбе.

1919 г. І. Луцкевіч, цяжка ўжо хворы на сухоты, намагаўся йшчэ трудзіцца дзеля зьдзейсьненьня сваей вялікай думкі адчыненьня Беларускае Гімназіі ў Вільні. У адчыненай гімназіі сам яшчэ бярэцца выкладаць беларусазнаўства і краезнаўства.

У тымжа 1919 г. І. Л. выяжджае ў Закапанае, каб лячыць хворыя свае грудзі, дзе 20 жніўня на чужыне растаецца з гэтым сьветам, з роднай Беларусьсю назаўсёды.

І. Луцкевіч апрача сваей вялікай працы, якой даканаў дзеля адраджэньня Беларусі, на аўтары яе ахвяруючы самога сябе, дарагі нам і тым, што адзначаўся хоць гарачым і скорым, але за тое добрым і лагодным хяректарам. Уcякая гнеўнасьць праходзіла ў яго хутка, не пакідаючы ніякіх сьлядоў на добрай душы яго. Сяньня павадзіўся, а на заўтра пацалаваўся — харэктэрызуючы Ів. Л., кажуць аб ім сучасьнікі яго.

Дык няхай-жа караніцца, узрастае і цьвіце ў Беларускім Народзе сьветлая памяць аб адным з першых піонэраў адраджэньня Беларусі!

**А. Сакалінскі.**

# Аб патрэбе турыстыкі на Беларусі.

Заданьнем гэтага артыкулу ёсьць закрануць пытаньне турыстыкі (падарожніцтва) на Беларусі й выклікаць зацікаўленасьць да арганізацыі Беларускага Турыстычнага Клюбу. Пытаньне турыстычнае зараз нязвычайна актуальнае ўва-ўсіх культурных краінах й прыняло дужа шырокія разьмеры. Ужо пагляд на турыстыку, як на люксус для багатых людзей амаль-што адыйшоў ў забыцьце, турыстыка сталася неабходным чыньнікам шырокіх кругоў грамадзянства, ня толькі моладзі, але й дарослых. Апрача гэтага, як важная праява грамадзкага жыцьця, яна сталася нават на-

вуковай дысцыплінай і выкладаецца ў многіх заходняэўрапэйскіх унівэрсытэтах, мае сваю гісторыю, заданьне і мэтоду. Часта-ж турыстыка спалучаецца ў комбінацыю з гісторыяй, прыродазнаўствам, але галоўнае з географіяй і фізычным узгадаваньнем. Заданьнем турыстыкі ў першую чаргу ёсьць загартоўваньне, пазнаньне краіны (памагчымасьці і чужых краінаў), памятак гістарычных, замкаў, курганоў, гарадоў, дакумэнтаў, мастацтва і архітэктуры, якую пакінулі нам нашыя папярэднікі; пазнаньне свае прыроды, прыгожай сваёй маляўнічасьцю, часам дзікасьцю, краябразаў, гораў, геолёгічных аглядаў, скалаў, рэк, вазёр, лясоў, мінэральных крыніцаў — лазьняў, этнографічнай асаблівасьці народу і г. д. Аб заданьні турыстыкі можна былоб пісаць дужа многа, бо ў гэтым кірунку працуе многа спэцыялістаў, істнуе багатая літэратура. Насустрэч турыстам йдзе ўсё грамадзянства і дзяржава, а дзеля гэтага ў Заходняй Эўропе вынікі дужа памысныя. Тут-жа істнуюць нятолькі цэнтралі з краёвых паасобных саюзаў, але міжнародныя турыстычныя арганізацыі, адбываюцца зьезды, мэтай якіх ёсьць наданьне рожных палёгак пры падарожжы, як чыгуначным, гэтак і вадзяным, альбо зьлепшаньне пабываньня і агледзінаў тых ці іншых асаблівасьцяў. Для зьбліжэньня рожных народаў дзеюцца рожныя зьезды, абмен культурных забыткаў, літэратуры, ды інш.

Якое значэньне мела-б турыстыка для нас Беларусаў, перадусім для кожнага ў асобку і для агульнага адраджэнскага руху? Бяспрэчна аграмаднае. Пашырыўся-б узровень сьветапагляду нятолькі ў тым альбо у іншым індывідууме, але пашырыўсяб культурны ўзровень цэлага народу, праявілася-б замілаваньне да свайго Краю. Мы, Беларусы, нажаль звыклі многа голасна гаварыць аб патрэбе пазнаньня, альбо вывучэньня Беларусі, ды заўсёды пачынаць з пачатку. Добра яшчэ, калі арыентуемося па Смолічу, Ігнатоўскаму і Гарэцкаму, адведаем якую небудзь беларускую вечарыну альбо лекцыю; многія на гэтым і застаюцца заспакоенымі, а большасьць-жа, забіўшыся ў свой „мядзьведжы кут" думае, што ягонае места альбо вёска й ваколіца—ўсё. Зусім часта здараецца, што чалавек пражыве гэтак і ўсё жыцьцё на адным месцы і, к сораму свайму, ня ведае нават таго, што ведаюць аб гэтым месцы чужынцы, будзь гэта ворагі альбо прыяцелі. Цікавасьць, разумная цікавасьць, здаецца ўроджаная асаблівасьць ў нашым народзе, яго трэба разьвіць і пакіраваць на шлях, на які ўступілі ўсе культурныя народы. Гэта будзе зарука нашае хутчэйшае перамогі над нашай цемрай і анальфабэтызмам. Сродкі на гэта вялікія непатрэбны, патрэбна добрая воля і хвіліна вольнага часу. Калі сабе добра даць адказ, сколькі ў нашае мо-

ладзі альбо ў дарослых марнуецца часу і грошаў на алькаголь, дык можна сьмела зрабіць кожны год немалую экскурсію і асьвяжыць сябе ўражаньнем бачанага і ададчутае прыроды. Ілюстраваная часопісь ніколі не нагрwelдзіць таго, што могуць даць уласныя спасьцярогі. Ня толькі той, хто працуе ўмыслова альбо нават займаецца тым ці іншым спортам, але й той, хто працуе фізычна, хай прабуе раз альбо два, адыйсьціся альбо адʻехацца па раней сабе зазначанаму маршруту з мапы.

Вярнуўшыся да хаты, ён пачуе, як ён перарадзіўся духова. Праўда, у нас на Беларусі няма спэцыяльных для гэтага ўмоваў, няма турыстычных хат — наагул непазначаны дарогі і сьцежкі турыстычнымі значкамі; ня звыкла жыхарства да вандроўнікаў — турыстаў, але узяўшыся да працы, наша моладзь, з дапамогай ўсяго грамадзянтва, хутка можа прыраўняцца іншым краінам. Патрэбна арганізацыя Беларускага Турыстычнага Клюбу і яго філіяў, пад наглядам якіх былі-б ўсе выдатнейшыя памяткі гэтае ваколіцы, Бел. Т. Клюб, які меў-бы статут і сяброў дзейных, клапаціўся-б, каб свае сябры на экскурсіях былі забяспечаны хоць у вызначнейшых мясцох начлегам і стаянкай. Дзеля таго, што большасьць падарожніцтва прыпадае ўлетку, альбо сьвятачныя фэрыі, кожная беларуская пачаткавая школа альбо гімназія, ці іншая ўстанова, у паразуменьні з Бел. Т. Клюбам, можа на выказаную сяброўскую легітымацыю даць за мінімальную плату, дзенны, у прыпадку, некалькі дзенны прыпынак і адпаведныя тлумачэньні-орыентацыі. Кожны такі турыстычны саюз, можа здабыцца на фотографічны апарат, выдаць сваім коштам паштоўкі, пабудаваць гасподу, чытальню, выдаваць часопісь, ладзіць лекцыі, арганізаваць лыжавыя альбо іншыя выпярадкі, коўзаўкі і г. д. Турыстыка — гэта таксама спорт, патрэбна вытрываласьць, загартаванасьць, яна разьвівае: цямлівасьць, умяркоўнасьць, памяць, парадак і сяброўскасьць. Руссо-ўскім „зваротам да прыроды“, чалавек оптымістычна глядзіць на будучыню, чуючыся часткай гарманічнае прыроды, выхоўвае характар.

А паглядзець на Беларусі ёсьць што. Гэта — край — як пісаў Кіркор, — магілаў, гарадоў, градзішчаў, замкаў, край, дзе амаль што на кожным кроку знаходзіце сьляды мінуласьці. Нашыя вазёры: Нарач, Сьвіцязь, альбо Беларускае Палесьсе, нашыя пушчы, курорты — крыніцы, рэкі, нашыя горы — ўзвышшы, Наваградзкая Швайцарыя—сваёй асаблівасьцю прыроднай ніучым ня ўступаюць іншым краінам. Добра арганізаваўшыся, можна было-б прыцягнуць на Беларусь для азнаямленьня з нашым краем турыстаў чужых народнасьцяй, прыцягнуць чужы капітал, багачоў — госьцяў з задыхаючыхся ад прамысловасьці гарадоў Зах.

Эўропы. Даволі-ж урэшце вывозіць толькі свае грошы заграніцу!

З сваіх пяцёхгадовых спасьцярогаў у Чэхаславаччыне, як працуе Клюб Чэска-славацкіх турыстаў (КГСТ), я могбы, зазначыць, што дасягнуў ён нязвычайных пасьпехаў.

Паўстаўшы ў 1888 годзе, за часоў аўстрыйскае рэакцыі, КЧСТ да часу здабыцьця незалежнасьці ў 1918 годзе меў 45 філіяў і 5.000 сяброў. У 1923 годзе нарахоўвалася ўжо чынных сяброў 33.000. Числo ўсьцяж расьце. Кажды сябра мае легітымацыю, якая дае многія выгады пры падарожжы. Клюб назначыў сьцежкі — дарогі ў лясох й горах звыш 15.000 км., пабудаваў да 700 гасьцініцаў, залажыў фонды для студэнцкае моладзі, выдае шэрэг публікацыяў турыстычных, картаў навуковых, „Часопісь Турыстаў“ (40 год выданьня), наладжвае выставы, спартовыя выпярадкі і г. д. Праўда, Чэхаславацкая рэспубліка, якая мае толькі ўсяго 140 тысяч кв. кілямэтраў апрача мора, мае ўсё, чаго шукала-б вока турысты. Большасьць Карпацкіх тораў (Высокія Татры) з вярхоўнай Гэрляхам (2663 мэтр), Карканошы (з Сьнежкай 16 5 мэтраў), скалісты чэскі масыў, Дунай, Лаба (Эльба), лябірынты падземныя ў вапняковым Мараўскім Красе, Карлаварскія (Карльсбадзкія) крыніцы й многія іншыя мясцовасьці — вызначалі быць Чэхаславаччыне турыстычным краем. Прыгожыя чэскія замкі багатае гістарычнае мінуласьці, няменш вабяць да турыстыкі, як чароўныя, незабыўныя пры паглядзе, краебразы прыроды. Вялізарны наплаў заграгічных госьцяў надаюць у сэзоне імпульс усім курортным мяйсцом і заробак жыхарству.

Беларуская студэнская моладзь у Чэхаславаччыне ў апошнія гады стала ня менш заўзята ў турыстыцы за сваіх калегаў Чэхаў. Кожны год пасьля сканчэньня заняткаў, Беларусы партыямі ў некалькі чалавек, з клумкамі за плячыма і кіем у руках разыходзяцца з дымнае Прагі, каб пазнаць Чэхію; амаль кожны зьбірае альбом-памятак з свайго падарожжа, каб вярнуўшыся да хаты на Беларусь, разсказаць і паказаць, як трэба рацыянальна выужыць вольную хвіліну. Няраз стаючы высока, высока на скалістай чэскай гары, за тысячу кілямэтраў ад далёкай, але блізкай па думцы, Бацькаўшчыне, лятуціш, каб прыдалася магчымасьць штонайхутчэй падарожнічаць па роднаму краю, сярод роднага народу.

Дык, хай-жа думка стварэньня Клюбу Беларускіх Турыстаў станецца запраўднасьцю!

**Żwičina ČSR.** **М. І—ч**

# Літэратурны аддзел.

Ул. Казлоўшчык.

## Пустая хатка.

I.

Каля выгана за вёскай
стаіць хатачка крывенька,
вокны ў ёй забіты дошкай,
спарахнела сама ўсенька.

Пры ёй дрэўца, кусьцік рожы,
паламаны ёсьць платочак,
быў калісь відаць прыгожы
і прытульны тут садочак.

Каля зрубу тэй хацінкі
зельле дзікае ўзраслося,
ня чуваць пры ей жывінкі,
толькі ластаўкам ўдалося

гнёзды тут сабе зрабіці.
Пуста так стаіць тут хатка
і няма каму ў ёй жыці,
бо... паслухай мой ты, братка:

Тут калісь жыла бабуля
так як хатка ўжо старэнька,
ў ей дачка была Настуля,
шмат прыгожа, маладзенька.

Яна, дзеўча, як малінка,
прыбірала гэту хатку,
працавала, як пчалінка
і любіла вельмі матку.

І бабулька пры ёй жыла,
пры харошай тэй Настульцы
і яна шчасьліва была
і хапала есьць бабульцы.

Але трэба было долі
гэткай горкай і няшчаснай,
што ня стала ужо болей
тэй Настулькі—зоркі яснай.

II

Ў вёсцэ жыў дзяцюк прыгожы,
молад, дужы і разумны;
называўся ён Амброжы,
а меў выгляд трошкі сумны.

Шчыры, добры, супакойны,
ён ня лез другім ў дарогу,
меў характар не прыгонны
і маліўся часта Богу.

Хто аднак яго зачэпіць,
хто яму ня йдзе з дарогі,
ён гузоў таму налепіць,
той сабе зламае ногі.

З „мужыкоў“ быў наш Амброжы,
не стыдаўся свайго стану,
горда ён глядзеў на людзі,
не кланяўся нізка пану.

Ён тутэйшым ўжо ня зваўся,
а быў шчырым Беларусам
і праз гэта спатыкаўся
і з начальствам і з прымусам.

Ён хацеў яшчэ зрабіці
для народу лепшу долю,
каб яму было як жыці,
ды каб меў зямлю і волю.

Беларусам ў нас на вёсцы
хто адважна прызнаецца,
будзе той ў паноў ў няласцы,
„вывратовцам“ назавецца.

Дык і наш дзяцюк Амброжы
ўсім паном быў сольлю у воку
і ня дзіва, што прыгожы
пільнаваўся са ўсіх бокаў.

Ён Настулечку—маліну
пакахаў усей душою,
не адну яны хвіліну
гаманілі між сабою

аб Старонцы, аб нядолі,
аб народзе так няшчасным
і аб тэй яго няволі,
што нясе ён ў краі ўласным.

А Настулька яго словы
ўсе да сэрца сабе брала
і ў душы ўжо на‘т аковы
свайго Краю яна рвала.

І што вечар спатыкалісь,
і сядзелі тут на прызьбе,
пешчатліва прытуляліcь,
прыракалі жыць у дружбе.

III

Цёплы дзень вясны прыгожай
скончыў працу ўжо сьвятую
і пашоў ён з моцы Божай
у старонку дзесь другую.

Сонца села за гародам,
дзесьці там ўжо заначуе,
на дабранач прад заходам
небасхіл яно цалуе.

Завялі свой говор жабы
і дзяргач ім дзесь ўтаруе;
ўжо вячэру вараць бабы,
а ня сьпіць зязюлька й куе.

Вечар. Спаць пашлі старыя,
каб назаўтра борзда ўстаці,
толькі хлопцы маладыя
і дзяўчата ня йдуць спаці.

А сядзяць сабе на прызьбе
і жартуюць, і сьмяюцца,
а іх сьмехі ў ночнай цішбе
аж за вёску дзесь нясуцца.

А Амброжы— галубочак
да Настулькі чэша сьпешна
і за хату у садочак
разам з ёю сеў усцешна,

Было ціха у садочку,
зоркі ясныя сьвяцілі,
у зацішным там куточку
так абое лятуцілі:

прыдзе час, калі мы пойдзем
з вёскі ў вёску, з хаты ў хату
і будзіць народ мы будзем
і—нясьці пацеху брату;

збудзім мы народ пакутны,
каб устаў ён, зварухнуўся
і каб выдаў зоў магутны,
каб аж сьвет ускалыхнуўся.

Каб распутаў люд Пагоню,
каб сваіх бацькоў быў годны,
каб узяў ён меч ў далоню
і падняў свой сьцяг народны.

І калі яны сядзелі,
быццам тыя галубочкі,
тут ня стуль ня зсюль ўляцелі
добра знаныя паночкі.

Наш Амброжы дагадаўся,
што за справа іх прыводзіць;
часта з імі спатыкаўся,
зрэшта, хто з нас ім дагодзіць...

І зрабілі вобыск ў хаце'
як у злодзея якога
і ўжо на‘т арыштаваці
захацелі, быццам злога.

Але з ім ня лёгка справа,
любіў—волю ён дарэчы,
і забыўся ён, што права
дзесь існуе тут на сьвеце.

І калі адзін з паночкаў
палажыў на плечы руку,
наш Амброжы быццам дошкай
даў яму так аплявуху.

Тут Амбрежы—бойкі волат,
частаваць хацеў другога,
але ўчуў Настулькі голас:
супакойся, бойся-ж Бога:

ты-ж ня злыдзень, знаюць людзі,
ня крыўдзіцель нейкі дрэнны,
тут памылка мусіць будзе:
ты-ж ёсьць добры і сумленны.

І хлапец апамятаўся,
як учуў Настулькі гукі
і ўжо на‘т не спраціўляўся
ланцугі ўзлажыць на рукі...

Павязьлі яго паночкі,
сакала злавілі ў клетку.
На дарогу Наста трошкі
яму дала хлеба й кветку.

(далей будзе).

# Хроніка.

**Трэці міжнародны зьезд скаўтаў.** 13 жніўня с. г. закончыўся трэці міжнародны зьезд скаўтаў. Зьезд адбыўся ў бацькаўшчыне закладчыка скаўтаў ангельскага капітана Бадэн Повэль каля места Біркенгад у Англіі. У зьезьдзе брала ўчасьце каля 50 тысяч скаўтаў, як прадстаўнікоў 70 народаў. Трэба зазначыць, што былі там і прадстаўнікі жоўтай і чорнай расы, а між іншымі брали ўчасьце у зьезьдзе скаўты літоўскія.

Скаўты гэта ёсьць арганізацыя моладзі, апіраючайся на дзесяці сваіх прыказаньнях. Прыказаньні гэтыя галосяць скаўтам: выраблець добры характар і сілу фізычную, шанаваць старэйшых, памагаць ім у працы і інш. добрыя пастулкі. Арганізацыя скаўтаў у гэтым годзе абходзіла ўрачыстасьць сваей поўналетнасьці—21 год.

**Піонэры Радавай Беларусі.** Піонэры—гэта ёсьць таксама арганізацыя моладзі, паўстаўшая ў часе перавароту у Расеі. Арганізацыя гэта ёсьць перасычаная духам камуністычным і распаўсюджана у ССРР., а тым самым і ўва Усходняй Беларусі.

Цяпер ува Усходняй Беларусі піонэры арганізуюць злёты (зьезды) як моладзі арганізаванае, так і неарганізаванае г. зн. не належачае да арганізацыі піонэраў; гэта робіцца дзеля скліканьня вялікага зьезду піонэраў у Менску, які мае адбыцца ў гэтым месяцы.

Аб арганізацыі піонэраў, як і аб усіх іншых арганізацыях моладзі, будзем пісаць абшырней у далейшых нумарох „Шляху Моладзі."

**Не даюць працаваць для украінскіх арганізацыяў моладзі.** Львоўскі староста разьвязаў цэлы рад саюзаў украінскае моладзі саколаў і лугоў (арганізацыі пажарнай стражы) яко-бы за „дзейнасьць спрэчную з статутам." Шлючы спачуваньне нашым братом, думаем, што яны аднак не перастануць працаваць далей дзеля асягненьня сваіх мэтаў.

**Дапытваюцца.** Беларуская сьведамая моладзь ня сьпіць, доказам чаго служаць частыя спэктаклі і вечарыны на вёсцы. Аднак спэктаклі ці вечарыны не заўсёды абыходзяцца ціха. Так напр. моладзь в. Шутавіч арганізавала Купальскае сьвята; здавалася, што гэта сьвята нікому і ня ў чым не магло перашкодзіць, а паліцыя аднак робіць допыты, чагосьці шукае.

Мы верым моцна, што паліцэйскія допыты не застрашаць беларускае моладзі і што яна зразумеўшы сваё за-

даньне, будзе яшчэ жывей працаваць на карысьць народу і Бацькаўшчыны Беларусі.

**„Чырвоная Зьмена“.** У Радавай Беларусі ў Менску выходзіць штодзенная беларуская часопісь рабоча-сялянскай моладзі п. н. „Чырвоная Зьмена“, часопісь гэта перасычана духам камуністычным і зьяўляецца органам Цэнтральнага Камітэту КСМБ (камсамолу).

Часопісь гэта сваім кірункам забівае здаровае нацыянальнае і маральнае пачуцьцё ў маладых душах беларускае моладзі.

**Запрасілі.** Беларуская Акадэмія Навук у Менску атрымала запросіны прыняць удзел у працах Зьезду Клясычных Філёлёгаў у Пазнані, які адбудзецца ў гэтым годзе.

**Беларускія фільмы.** У Ўсходняй Беларусі ў 1925 г. паўстала беларускае фільмовае таварыства. „Бельдзяржкіно“, якое да гэтага часу стварыла шмат фільмовых абразоў. Некаторыя з іх, як „Лясная быль“ „Кастусь Каліноўскі“, „Песьня вясны“ карыстаюцца вялікім пасьпехам нават заграніцай, як у Расеі, Нямеччыне, Літве, Латвіі і інш. Цікава было-б пабачыць іх у Заходняй Беларусі!

**Найгалаўнешыя сёлетнія юбілеі.** У гэтым годзе прыпадаюць 20 жніўня 10-я ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча, 30 лістапада 400-я ўгодкі ўлажэньне Літоўскага Статуту і 10-я ўгодкі заснаваньня Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Беларускае грамадзянства павінна як найурачысьцей гэтыя так важныя і вялікія юбілеі адсьвяткаваць.

**Новыя культурныя пляцоўкі.** У вёсцы Кірдзееўцах Віль.-Троцкага пав, і ў м. Будславе сарганізаваліся гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Гурток Інстытуту ў Кірдзееўцах адчыняе бібліятэку-чытальню. Новым беларускім культурным пляцоўкам жадаем пасьпеху ў іх працы!

**Матура у Віл. Беларускай Гімназіі.** 28 чэрвеня закончыліся матуральныя экзаміны ў Віл. Бел. Гімн., у выніку якіх 13 асоб атрымала матуры. Усіх матурыстаў віншуем і жадаем стойкасьці і вытрваласьці на грунце барацьбы за правы беларускага народу.

**Спынілі і зачынілі.** Астатнімі часамі спынена уладамі дзейнасьць Акружной Управы Т-ва Беларускай Школы у Сьвіслачы і зачынена Акружная Управа Т-ва Беларускай Школы у Горадні.

**Беларусы ў Амэрыцы.** Беларуская эміграцыя ў Амэрыцы ўжо 4 гады як выдае сваю часопісь п. з. „Беларус-

кая Трыбуна". Часопісь гэта выдаецца ў мове ангельскай і расейскай. Шкада, што там нічога няма ў мове беларускай. Праца іх аднак заслугоўвае ўзнаньня. Дык няхай-жа жывуць беларускія эмігранты ў Амэрыцы і памятуюць таксама аб Бацькаўшчыне Беларусі!

**Кс. В. Шутовіч у Амэрыцы.** Ведамы беларускі дзеяч кс. В. Шутовіч выехаў у Амэрыку, дзе ўжо працуе на грунце рэлігійным. Адтуль ужо хіба арцыбіскуп Ялбжыкоўск ня выгане яго?!

**Беларускі лемэнтар.** Дзяржаўнае выдавецтва выдала ў Львове лацінскімі літарамі беларускі лемантар, апрацаваны Ст. Любіч-Маеўскім. Лемантар гэты адбягае ад беларускага правапісу і ўложаны ў духу польскім. Беларускае грамадзянства зразумела, чым гэта пахне і ў асобе Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры рашуча запратэставала процiў увядзеньня гэтага лемантара ў пачатковыя беларускія школы. Як бачым, польскі нацыяналізм выцягае руку па беларускую моладзь.

**Суд над маладым беларускім працаўнiком В. Шутовічам.** Смаргонскі Гарадзкі Суд 16 г. м. разглядаў справу В. Шутовіча, абвінавачанага з 262 арт. ч. III К. К. і засудзіў маладога беларускага працаўніка на 2 месяцы арышту. В. Шутовіч на гэты прысуд падаў апэляцыю ў Суд Акружны.

В. Шутовіч у сёлетнім годзе дужа працуе на вёсцы на ніве беларускай культуры. З сваімі такімі-ж гарачымі да працы над беларускай справай калегамі, належачымі да Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры В. Ш. зарганізаваў тэатральную трупу, якая абяжджаючы пав. Ашмянскі, Маладэчанскі, Вялейскі і Віл.-Троцкі праз цэлую вясну і лета ладзіла спэктаклі.

Зімою, калі адбываліся выбары ў гмінныя самаўрады ў Ашмянскім пав., В. Ш. ня будучы да гэтакай працы прыгатаваны, узяўся аднак да спаўненьня грамадзкага абавязку і ў гэтай галіне, бо ня бачыў там пры працы тых, каторыя маюць і прывілеі і большыя магчымасьці да гэтай працы.

З гэтага бачым, што моладзь беларуская павінна зацікавіцца і справамі самаўрадавымі; належна гэту справу студ'яваць і дасканальна зразумеўшы яе, црыступаць да працы. Моладзь — гэта будучыня; дзеля гэтага яна павінна жыць з жывымі, не аглядаючыся на бяздзейнасьць другіх.

**Урачыстае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** У нядзелю 18 жніўня с. г. ў Вільні адбылося ўрачыстае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту з прычыны 10-х ўгодкаў заснаваньня яго.

**Жалобныя набажэнствы.** 20 жніўня с. г. адбыліся жалобныя набажэнствы ў касьцеле сьв. Мікалая і у сьв. Троіцкай царкве з црычыны 10-х угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча.

**Р. Астроўскі дырэктарам Віл. Бел. Гімназіі.** Бацькаўскі Камітэт Віл. Бел. Гімн. на паседжаньні 4 жніўня с. г. выбраў на становішча дырэктара Віл. Бел. Гімн. на наступны школьны год Р. Астроўскага.

**Да беларускіх выдаўцоў.** З прычыны таго, што ця пер час, калі друкуюцца календары, хочам зьвярнуць увагу, каб пры апрацоўцы такіх аддзелаў у календары, як інфармацыйны ды яшчэ зьвязаны з гісторыяй, ня было аднабокасьці, як гэта зроблена ў Беларускім Народным Календары на 1929 г. выданьня „Беларускага Выдавецкага Таварыства", дзе ў аддзеле „Беларускі гістарычны календар" напісана аб маёвым перавароце ў 1926 г.(!?), аб стварэньні і зачыненьні беларускае „Грамады", аб прысудзе над ёю, аб заснаваньні Т-ва Бел. Школы, аб залажэньні Бел. Каап. Банку, а няма аб Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, каторая фармальна істнуе ўжо ад 1917 году, няма такжа нічога аб Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, істнуючым ад 1926 году і інш. Ня можна гэтага тлумачыць нясьведамасьцяй аўтара, бо ў тым-жа календары на стр. 201 у інфармацыйным аддзеле ўспомнена аб Інстытуце, а на стр. 202 аб Бел. Хр. Дэм. і інш. установах.

**Новыя кніжкі.** Вышлі з друку і прадаюцца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях наступныя беларускія кніжкі: „Беларускія Народныя Песьні", гэта зборнік беларускіх народных песьняў, якія сабраў і вельмі прыгожа выдаў гр. Г. Шырма. Сьпеўнік мае 34 песьні з нотамі, цана 5 зл. „Kaziukowaje žanimstwa" — вельмі цікавая кніжка выд. Айцоў Марянаў у Друі, цана 50 гр.

**Пачатак школьнага году.** Паводле загаду Міністэрства В. Р. і О. П. школьны 1929/30 год пачнецца 3 верасьня

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і Уладыслаў Тарасэвіч.*

---

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

**Кангрэс Нацыянальных меншасьцяў** у гэтым годзе адбудзецца у Жэнэве ад 26-28 жніўня. Беларусы ў гэтым годзе не прыймаюць удзелу ў кангрэсе.

# Усячына.

**Што калі!** Порах да страляньня прыдуманы у 1330 г. Друкарня ў 1440 г. Люнэта ў 1609 г. Гадзіньнік з вагамі у 1657 г. Аловак у 1695 г. Паравая машына ў 1698 г. Фартапіян у 1721 г. Грамаадвод у 1752 г. Балён у 1783 Прышчэпліваньне воспы уведзена у 1796 г. Першы карабель паравы збудаваны у 1812 г. Чыгунка збудавана у 1825 г. Тэлеграф у 1843 г. Машына да шыцьця у 1845 г. Телефон у 1861 г. Калея электрычная у 1879 г. Талеграф бяз дроту у 1893 г. Падводная лодка у 1833 г. Арэаплян у 1902 г. Машыновая стрэльба у 1903 г.

**Косьці з прад 20.000 гадоў.** Паводле газэт, у Усходняй Беларусі, у ваколіцах Гомеля выкапаны косьці перадпатопных зьвяроў, між іншымі некалькі шкілетаў мамутаў. Савецкія газэты пішуць, што гэтыя косьці і шкілеты ёсьць з прад 20,000 гадоў.

**Лятаюць.** У прошлым месяцы хацелі пераляцець польскія лётчыкі Ідзікоўскі і Кубаля на самалёце „Маршалак Пілсудзкі" Атлянтыцкі акіян з Эўропы ў Амэрыку. Вынік гэтага такі: самалёт „Маршалак Пілсудзкі" разьбіты, лётчык Ідзікоўскі забіты, Кубаля ранены. Ляцелі разам у той дзень у тым самым кірунку і лётчыкі французскія, але таксама, не пераляцелі, вярнуліся.

Амэрыканскія лётчыкі Дэнексон і О'Брíян на самалёце „Ст. Ліоі Робін" падняліся ў паветра і лялалі 420 гадзін і 21 мінуту, зужываючы 13.376 літраў бэнзыны, пралятаючы 41.250 кілёмэтраў і гэтым пабіваючы сусьветны рэкорд вытрываласьці. Прадстаўнік фабрыкі, у каторай быў збудаваны самалёт, уручыў для лётчыкаў 25 тысяч даляраў як нагараду.

Нямецкі цэпэлін пераляцеў ужо два разы Атлянтыцкі акіян з Эўропы ў Амэрыку. Гэты-ж цэпэлін мае замер ляцець навокал сьвету. Падчас гэтага лёту будзе пералятаць над Вільняй.

**Савецка-Кітайская вайна.** У апошнія часы саветы пасварыліся з кітайцамі за манджурскую чыгунку. Сварка гэта выклікала канфлікт, пагражаючы вайною.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

**Камень, каторы можна рэзаць пілою.** Савецкія газэты пішуць, што ў паўднёвай Армэніі адкрыты вялікія пласты каменя. Гэты камень ёсьць вельмі лёгкі, не прапушчаючы ані голасу, ані цяпла, а найцікавей, што можна яго рэзаць у розных размерах і у розныя формы. Гэты камень бязумоўна можа прынясьці вялікія карысьці ў будове. Знаўцы прызнаюць, што ён ёсьць вульканічнага паходжаньня.

ПРЫКАЗКІ.

Улез у дугу — не кажы, што не магу.

Плакаў, плакаў — усё Бог аднакаў, як стаў скакаць— стаў Бог даваць.

На воўка намоўка, а мядзьвець і лічанае бярэць.

Свату першая чарка, але й першая палка!

Трэба ехаць альбо на шчасьці, альбо на снасьці.

